# Два дакумэнты.

## Лісты у рэдакцыю.

I.

Паважаны грам. Рэдактар!

У № 10 „Беларускае газэты зьмешчана заметка пад загалоўкам „Тое, што сталася“, ў якой аўтар, хаваючыся пад псэудонімам «Тэбэшовец» няпраўдзіва і няслушна апісывае леташні акружны зьезд ТБШ ў Беластоку і мае наступкі.

У імя праўды прашу зьмясьціць у „Беларускай газэце“ наступнае:

Няпраўдай ёсьць, што я на памянёным зьездзе „гаварыў аб статутовых адхіленьнях і палітычных мамэнтах“ у працы гурткоў, сьцьвярджаючы гэтым самым, быццам, дзеяльнасьць паасобных гурткоў вялася паза рамкамі статуту, апраўдываючы, такім спосабам, крокі тых чыннікаў, каторым трэба заўдзячваць сучасны арганізацыйны стан ТБШ“.

Няпраўдай ёсьць, што я „зьяўляюся аўтарам рэзалюцыі, зьмешчанай у польскай часопісі „Справы Народовосьцёвэ“, бо такой рэзалюцыі і ня было.

Няпраўдай ёсьць, што я „ні словам не заікнуўся супроць удзелу сяброў Галоўнае Управы ў хадэцкіх палітычных выступленьнях („выкарыстаньне юбілею Купалы і Коласа, сьвяткаваньне 15 угодкаў БНР“),—быццам моўчкі апрабуючы гэта.

Няпраўдай ёсьць, што я „да сёньняшняга дня моўчкі згаджаюся на ўвядзеньне ТБШ — на перэкор волі нізоў — у хадэцкі нацыянальны камітэт“.

Затое:

Праўдай ёсьць, што на зьездзе я інфармаваў прысутных сяброў аб тым, што ўлады зачыняючы, або завешываючы гурткі, ці стасуючы іншыя рэпрэсіі да ТБШ, вельмі часта аб'ясьняюць свае пастуркі, быццам, „статутовымі адхіленьнямі, ці палітычнымі момэнтамі“ ў працы тых гурткоў ТБШ.

Паведамляючы аб гэтым, я заклікаў сяброў, каб у будучыні, калі-б зьяўляліся паасобныя адзінкі ў радох ТБШ імкнучыяся ісьці па лініі, спрыяючай тасаваньню рэпрэсіяў да ТБШ, — запраўды ўносячы „статутовыя адхіленьні“ ці „палітычныя моманты“ ў працу ТБШ, то заклікаў—даць атпор гэтым адзінкам, вядучы працу, як і раней, паводле статуту, трымаючыся культурна-асьветнага шляху.

Праўдай ёсьць, што на зьездзе прадстаўнік улады неспадзевана высунуў пытаньне аб выпадку збройнага выступленьня на шасе Беласток-Гарадок, дзе падазронны ім таксама ўдзел сяброў ТБШ, калі сяляне абстрэліваючы аўтобус, адбілі ў паліцыі арыштованага. Пры гэтым прадстаўнік улады зазначыў, што ў аўтабусе знаходзіліся жанчыны з дзяцьмі, жыцьцё якіх было наражана на небясьпеку, гэтым высоўваючы і падчырківаючы асноўны сэнс свайго наступнага жаданьня: каб мы выказалі свае адносіны да гэтага здарэньня, узалежніваючы ад гэтага магчымасьць далейшае працы ТБШ.

У адказ на гэтае жаданьне я адказаў, што не ўваходзячы ў ацэнку факту ці матываў здарэньня на шасе Беласток-Гарадок, я, як чалавек, выказываюся проціў такіх дзеяньняў, падчас якіх непатрэбна наражаецца на небясьпеку жыцьцё нявінных жанчын з дзяцьмі.

Рэзалюцыяў-жа было дзьве. — Адна аб высылцы прывітальнай тэлеграмы на акадэмію ў Менск Купале і Коласу з прычыны іх юбілею. Рэзалюцыя была прынята і тэлеграма выслана. Другая — аб высылцы прывітальнай тэлеграмы Бр. Тарашкевічу, як закладчыку ТБШ. Гэную рэзалюцыю прадстаўнік улады забараніў.

Праўдай ёсьць, што я на зьездзе нічога не гаварыў „супроць удзелу сяброў Галоўнае Управы ў хадэцкіх палітычных выступленьнях (выкарыстаньне юбілею Купалы і Коласа, сьвяткаваньне 15 угодкаў БНР),—бо ня было аб чым гаварыць дзеля таго, што юбілей і сьвяткаваньне адбыліся пасьля Беластоцкага зьезду: зьезд быў 20 лістапада 1932 г. а юбілей 27 лістапада 1932 г., сьвяткаваньне-ж 15 угодкаў БНР аж у 1933 г. 25 сакавіка.

Праўдай ёсьць, што я не прымаў ніякага удзелу ў хадэцкіх сьвяткаваньнях юбілею, Купалы і Коласа і ў сьвяткаваньні 15 угодкаў БНР. а таксама ніколі сам не прыймаў удзелу і нікога не ўпаважняў удзельнічаць у нарадах з хадэкамі аб уводзе ТБШ у хадэцкі Нацыянальны Камітэт.

17 лістапада 1933 г.

(—) *Д-р Мікалай Марцінчык*
Сябра Галоўнае Управы ТБШ.

II.

Паважаны гр. Рэдактар!

Паседжаньне Акружнае Управы ТБШ у Беластоку 28 лістапада сцьвердзіла, што прынятая пры няпоўным складзе Акружнае Управы пастанова з дня 12. XI. 33 г., адносна артыкулу, зьмешчачага ў „Беларускай Газэце“ пад загалоўкам „Тое, што сталася“, зьяўляецца няслушнаю.

Акружная Управа, разгледзяўшы гэты артыкул у поўным сваім складзе, катэгарычна сьцьвярджае, што артыкул „Тое, што сталася“ зусім адпавядае праўдзе, а зробленыя закіды Марцінчыку і Лукашыку зьяўляюцца слушнымі.

Сэкрэтар (—) *В. Лешчынскі.*

Беласток 1. XII. 33.

**Ад рэдакцыі:** Зьмяшчаючы абодва дакуманты, зазначаем:

1. Паміж лістом гр. Марцінчыка і закідамі, якія рабіліся яму ў артыкуле „Тое, што сталася“, мы ня бачым *істотнай і фактычнай* розьніцы, хоць ліст зьяўляецца намаганьнем замазаць *сутнасьць* справы. Марцінчык хоча ўсё зьвясьці да дыскусіі аб „статутовых адхіленьнях“, якіх у сапраўднасьці ня было і няма, але якія хочуць бачыць пэўныя асобы, прыглядаючыся да працы ТБШ праз свае спэцыяльныя акуляры. Але затое Марцінчык ні слова ня сказаў аб *галоўным* мамэнце свайго выступленьня: аб супрацоўніцтве з палянізатарскімі арганізацыямі, да якога ён заклікаў і якое было асновай для ўсіх іншых яго вывадаў. Піша Марцінчык, што рэзалюцыі ня было, а ён сам выступаў толькі прыватна, „як чалавек“. У артыкуле „Тое, што сталася“ была гутарка толькі аб *праекце* рэзалюцыі; ад таго што Марцінчык выступаў „прыватна“, яго выступленьні і праект не перасталі быць *палітычнымі дэклярацыямі прадстаўніка пэўнага кірунку*, бо-ж Марцінчык — сябра Галоўнай Управы ТБШ. У сваім лісьце прычапіўся Марцінчык да календара: ён, бачыце, ня мог выступіць *на зьезьдзе* супроць удзелу сяброў ГУТБШ (Стэцкевіча і Шырмы) ў хадэцкіх палітычных дэманстрацыях, бо дэманстрацыі гэтыя былі пазьней. Нашто варочаць ката хвастом дагары? Артыкул так не гаварыў. Чаму лепш Марцінчык не расказаў грамадзянству, як ён *не на зьезьдзе* выступаў супроць гэтага? Не расказаў, бо ў яго такіх выступленьняў *ня было.*

2. Калі ў „Б.Г.“ № 12 мы цытавалі пункт рэзалюцыі Беластоцкай Акр. Упр. ТБШ, дзе безпадстаўна гаварылася аб „няслушнасьці“ артыкулу „Тое, што сталася“, — мы бачылі ў гэтым руку пэўных „закранутых асоб“, якім хацелася выгарадзіцца з гэтае „непрыемнае гісторыі“. У той самы час мы былі перакананы, што ўспомненая рэзалюцыя ня ёсьць думкай *усіх* сяброў Беласт. Акр. Упр. ТБШ. І сапраўды — думка *поўнага складу* АУ аказалася *іншай.* Супярэчнасьці адносна сьцьвярджэньня фактаў паміж абодвымі рэзалюцыямі мы ня бачым: факты і ў аднэй і ў другога пацьвярджаюцца ў адваротным сэнсе для ліста Марцінчыка.

3. Даючы магчымасьць дзеячам ТБШ выказацца на старонках „Бел. Газ.“ аб гэтых важных справах мы адначасна выказваем зьдзіўленьне, што ўсё гэта было сябрамі Галоўнае Управы Стэцкевічам і Шырмаю абыйдзена маўчаньнем, а ў „Летапісе“ № 2 проста запярэчана. Гаворыцца там, што калі-б у выступленьнях Марцінчыка была здрада, то яна была-б асуджана. Калі-ж не асуджана—значыць, яе ня было. Такія заявы фактычна прыкрываюць Марцінчыка, бо не паддаецца сумліву факт, што ягоныя заклікі сапраўды здрадніцкія.

# Віленская хроніка

*Апэляцыйны працэс забойцы Барэйшы.* 29 лістапада Віленскі Апэляцыйны Суд разглядаў справу б. вастрожнага стоража Александра Качаноўскага, які ноччу з 13 на 14 чэрвеня застрэліў старшага вастрожнай варты — Барэйшу. Акружны Суд два месяцы таму назад засудзіў Качаноўскага на 5 гадоў вастрогу, прыняўшы пад увагу яго п'яны стан у хвіліну забойства. Апэляцыя адкінула гэтую палягчаючую абставіну і павысіла кару да 10 гадоў.

*У гэты самы дзень* Акружны Суд судзіў беларускіх вучняў з б. Вучыцельскае Сэмінарыі імя Ф. Багушэвіча. На лаве падсудных заселі Атрахамавічанка, Аляшкевіч, Крупіч і Шутовіч, абвінавачаныя ў прыналежнасьці да КПЗБ. Сьведкамі былі вучні і вучыцялі б. сэмінарыі, а так-жа сам пан Астроўскі, вядомы спэцыяліст па вучнёўскім працэсам. Суд апраўдаў вучняў.

*Залішняя скромнасьць.* „Родны Край“ № 24 піша аб выходзе фашыстоўскай газэты пабеларуску «Новага Шляху» і дае заметцы загаловак «*Першы* фашыстоўскі орган пабеларуску». Пан Луцкевіч залішне скромны. Фашыстоўскія часопісі пабеларуску („Наперады“, „Званы“, „Край“) выдаваў і выдаў так-жа ён сам з Р. Астроўскім, Н. Трэпкай і рэштай кампаніі. Гэтае «чэсьці» пяршынства ніхто ад яго адабраць ня зможа.

*У белсанатарскім балоце* родзяцца ўсьцяж «расколы». Ня так даўно адтуль уцёк да хадэкаў Ф. Акінчыц, цяпер-жа «Беларуская Крыніца» зьмяшчае ліст новага бежанца Крука, які заяўляе аб сваім выступленьні з ТБА (Тавар. Бел. Асьветы). Крук тлумачыць свой чын асабістай нялюбасьцю да Самойлы (ёсьць там адзін такі), бо гэты грамадзянін «выкідае заслужаных беларускіх грамадзян з памешканьня ТБА, уважаючы гэтае памешканьне за сваё ўласнае». Не падабаецца Круку таксама, што Луцкевіч і Трэпка „ўзалежніваюць матэрыяльна ад сябе ТБА“ (чытай: Крука). Словам, тыповы „раскол“ на карытнай (ад слова „карыта“) аснове.

*Дайшла да Вільні* сумная вестка з Наваградку аб сьмерці беларускага студэнта Пятруся Пяршукевіча, выдатнага і нястомнага працаўніка на ніве ТБШ. Апошнія месяцы свайго жыцьця Пятрусь Пяршукевіч прысьвяціў арганізаваньню новых гурткоў Т-ва, здабываючы сабе ў наваградзкай вёсцы пашану і аўтарытэт барацьбіта з цемраю, за родную школу і супроць тых, хто гэтую барацьбу зрывае.

Таму трэба дзівіцца нагласьці беларускіх сяўцоў цемры з-пад сьцягаў хадэцыі, якія асьмеліліся спэкуляваць іменем тэбэшоўца пасьля ягонай сьмерці, хоць з імі ён нічога супольнага ня меў.

*Папраўка.* У артыкуле, зьмешченым у „Бел. Газ.“ № 12 пад назовам „У праграме — адно, на справе - другое“ (разьдзел „Што пішуць?“), напісана; Хадэкі затаіваючы гэтую „пачэсную“ ролю „Незалежнае“ Літвы называюць гаспадарчую палітыку „заваёўваньнем“... Нямеччыны і Англіі! Павінна быць: „называюць **яе** гаспадарчую палітыку“ і г. д.

# Пра беларускі лён і далёкае Пэру.

Просім паважанага аўтара выбачыць, што зьмяшчаем артыкул з вялікім спазьненьнем, хоць прысланы быў да № 9-га нашае газэты лічым, аднак, што артыкул свайго значэньня ня страціў.

Рэдакцыя.

Гэта нічога, што шуш, узьняты вакол „Паўночнага Кірмашу“ ў Вільні,—заціх. Мы варочаемся да гэтае справы, каб разглядзець яе *ў сувязі з іншымі зьявішчамі нашага гаспадарчага жыцьця.* Такому-ж разгляду пэўная адлегласьць толькі спрыяе.

Пра «Паўночны Кірмаш» пісала таксама беларуская мяшчанская прэса — санацыйны «Родны Край» і хадэцкая «Беларуская Крыніца». Характэрнай была тая *невыпадковая* плыткасьць, якою зіхацелі іхныя разважаньні.

«*Родны Край*» жальбаваў, што «шырокія колы нашага народу не стаяць яшчэ на адпаведным роўні», каб «у арганізацыі кірмашу ў сваім Краю» стаць „актыўным чыньнікам“. Прычынай гэтае разчуленасьці і сьлёз было ні больш, ня менш, як толькі тое, што «Родны Край» не прыгледзеў магчымасьці, каб... «*хаця скарыстаць*” з гэтага кірмашу «*больш-менш заможнаму селяніну-гаспадару*».

«*Беларускай Крыніцы*» асабліва спадабалася на „Паўночным Кірмашы“ ідэя ільняное выстаўкі, бо гэта-ж ідзе зусім па думцы хадэкаў...

На гэтым беларуская мяшчанская прэса спынялася, *ня хочучы* бачыць *глыбокіх* і сапраўды *істотных* мэтаў, якія ставілі перад сабой арганізатары „III Паўночнага Кірмашу“. А гэтыя мэты былі відавочны на першы пагляд вока і арганізатары „Кіршаму“ іх не хавалі.

Уся акцыя была арганізавана пад лёзунгам „*пераграваньня крызісу*“, пад лёзунгам „*самавыстарчальнасьці*“, выхадным пунктам для якой стаў *лён.* У гэты час ільном была, даслоўна, завалена ўся прэса. Генэрал Жэлігоўскі нават расказаў байку пра „сьпячую князёўну“, якой на гэты раз быў... лён.

Аб самым «Кірмашы» і гаварыць ня прыходзіцца: тут „сейце лён“, „насіце ільняную вопратку“ і т. п. і г. д. на кожным кроку і на ўсе лады. Словам, лён стаў раптам усім, чым толькі хочаце, нават „выхадам“ з крызісу.

Бязумоўна, лён — расьліна дужа карысная і цьвіце сіненькімі кветкамі і ўсё такое, але мы сумляваемся ў тым, што ільняная сьцежка вывядзе шырокія масы згалелага сялянства Заходняй Беларусі на шлях дабрабыту. Не дарма на ільняной выстаўцы сярод многіх экспанатаў нельга было днём з агнём знайсьці няводнага прыкладу са звычайнай сялянскай гаспадаркі. Справа ў тым, што *лён расьце на зямлі,* а яе то якраз і няхватка ў селяніна.

Але тут мы хацелі зьвярнуць увагу на іншы бок гэтае самае справы. Асноўныя землі нашага краю з Віленшчынай на чале маюць ператварыцца ў *ільняныя палёткі*—так гэта выглядае ў прапагандзе. Побач, аднак, з гэтым, на ўсім «Кірмашы» мы ніразу ня сустрэліся з прапагандай такіх, прыкладам, рэчаў, як будаўніцтва ў Заходняй Беларусі пераапрацоўваючых гэты самы лён *фабрык,* а таксама *заводаў,* выробляючых адпаведныя машыны. Выходзіць, што край наш павінен стаць *дадаткам* да польскай тэкстыльнай прамысловасьці, з усімі выцякаючымі адгэтуль вывадамі.

Гэтыя *асаблівыя,* нейкія мачышыныя, адносіны да нашага краю праяўляюцца і ў іншых справах, вырастаючы, такім чынам, у сыстэму.

На старонках «*Gazety Polskiej*» праз даўгі час вялася цікавая дыскусыя наконта асушкі Палесься. Што-ж тут здавалася-б дрэннага? Справа добрая. Прыгледзьмася-ж, аднак, да апошняга дыскусыйнага артыкулу „Zagadnienie Polesia“ („G. P.“ за 29/IX г. г.) інжынера Клюзьняка.

Адным з асноўных аргумэнтаў аўтара за асушку ёсьць тое, што Палесьсе—гэта „тэрыторыя*) найменш заселеная, дзе буйная зямельная

*) усюды падкрэьлена намі—В. М.

